ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1535) ГОД XXX БЕЛАСТОК 13 КАСТРЫЧНІКА 1985 г. ЦАНА 10 зл.

## НАША ПРАВА — НАШ АБАВЯЗАК

13 кастрычніка выбярэм новы Сейм. Выбярэм вярхоўны орган улады, які адгэтуль ад нашага імя вяршыць будзе справы краіны.

Пасольскі мандат мае ў нас асаблівую цану. Часта бачым у ім сілу чарадзейнай палачкі. Гэта добра адчулі на перадвыбарных сустрэчах кандыдаты ў Сейм. У часта гарачым клімаце грамадзянскіх дэбатаў не заўсёды мелі час узважыць свае магчымасці ў той ролі, якую ім вызначаем. Была гэта сур'ёзная праверка іх грамадскай актыўнасці.

Сёння іх 870 (50 у цэнтральным і 820 — у акруговых спісках). 13 кастрычніка пасольскія мандаты даверым 460. Ад ведаў, вопыту і адданасці краіне і грамадству кожнага з іх будзе залежаць калектыўная мудрасць найвышэйшага органа нашай улады.

Глыбокі змест палітычнага аднаўлення панаваў у час перадвыбарчых сходаў. Гаворка ішла аб патрэбах краіны і мясцовых справах, была крытыка недахопаў і адначасова гаспадарскае выяўленне шматлікіх рэзерваў і пакладаў грамадскай актыўнасці. Не з усімі справамі, узнятымі на гэтых сходах, трэба чакаць рашэнняў Сейма. Шмат у нашым жыцці залежыць ад знаходлівасці і спраўнасці гаспадарчых, адміністрацыйных ці культурных устаноў. Датычыць гэта і беларускага палетка.

Пасол не цудатворац. Аб гэтым выразна гаворыць прынятая на апошнім пасяджэнні Сейма VIII склікання пастанова аб абавязках і правах паслоў. З яе ясна вынікае, што пасол, выконваючы сваю службу, павінен жыць справамі сваіх выбаршчыкаў, з іх клопатаў чэрпаць веды аб жыцці краіны і яе патрэбах. Яна абавязвае: „паслы імкнуцца да гарманічнага аб'яднання інтарэсаў мясцовых з інтарэсамі агульнанацыянальнымі".

Трэба спадзявацца, што новыя паслы добра завучаць гэтую ўстаноўку.

Ідзем на выбары ў складаны час. Многія ў краіне не пазбыліся яшчэ траўмаў 1981 года і глядзяць на падзеі праз мутную прызму крыўд і душэўнага разладу. Думаю, што сярод іх не будзе чытачоў „Нівы". Не пара на хістанні.

Ідзем на выбары, бо мы за сацыялістычнае аднаўленне, за дэмакратычную ўладу, за працэс грамадскага і гаспадарчага развіцця, за духоўны рост чалавека, за аднолькавыя правы для кожнага грамадзяніна.

**Ідзем на выбары, бо мы супроць анархіі, самаўладства, гаспадарчай разрухі, неталерантнасці.**

**„Выбары з'яўляюцца ўсеагульнымі, права выбіраць мае кожны грамадзянін, якому ў дзень выбараў споўнілася 18 год — нягледзячы на пол, нацыянальную і расавую прыналежнасць, веравызнанне, адукацыю, час пражывання ў выбарчай акрузе, сацыяльнае паходжанне, прафесію і маёмаснае становішча". Гэта з палажэння аб выбарах. Усеагульнае выбарчае права — гэта аснова дэмакратычнасці выбараў. Яно з'ўляецца таксама грамадскім абавязкам — адносна сябе і адносна ўласнай краіны.**

**13 кастрычніка я не забуду пра сваё права.**

**Георгій Валкавыцкі**



Сялянская восень.

Фота Я. Целушэцкага.

Нам да сустрэчы — многа дзён тугі,
Падзелім без астатку іх пароўну.

Як зацвітуць пралескамі снягі,
Вясна пярэйдзе зімнія кардоны —
І пасвятлее неба над зямлёй.

Мы будзем знаць, што ўсё ад нас залежыць:
І пах адталых маладых палёў,
І першы гулкі гром над Белавежай.
Нам да сустрэчы — яблыневы сад
З ружовым цветам, песняю пчалінай,
І жыта маладая паласа,
І над крыніцай тонкая каліна...

Не апускай у задуменні плечы,
Мы адсвяткуем да зімы сустрэчу.

**Зінаіда Дудзюк**




### ШАНУЕМ СЯБЕ І СВАЮ МОВУ

Сёння хачу пафантазіраваць. А прымусіў мяне да гэтага М. Панфілюк, які ў „Ніве" № 30 ад 23 ліпеня ў сваім артыкуле „Пустата" аж прасіўся, каб мяне ахапіла фантазія.

*

Што гэта ў апошнія гады дзеецца з беларусамі? Іншымі сталі. Ніхто не сароміцца сваёй мовы і гаворыць на ёй усюды. Нават у дзяржаўных установах, дзе абавязвае польская мова, час ад часу можна пачуць і беларускую гутарку. Дзеецца так тады, калі прыйдзе па вельмі важнай справе нейкая бабулька ці дзядуля, якія не вельмі добра валодаюць польскай мовай. Калі за сталом сядзіць беларус, дык ён да такіх людзей звяртаецца па-беларуску. Нават, калі разам з ім у адным пакоі сядзіць адзін або два працаўнікі — палякі. Часам здараецца, што пасля выхаду старых беларусаў,ураднік-паляк запытае ўрадніка-беларуса, чаму ён гаворыць з імі па-беларуску. Тут жа абавязвае польская мова! — А я шаную гэтых людзей, сябе і сваю мову, — адказвае яму на гэта беларус.

Так, так, змяніліся беларусы! Нават тыя, што раней называлі сябе праваслаўнымі палякамі, цяпер кажуць: мы беларусы! — і горда падымаюць галаву.

Што так змяніла людзей? Мо беларуская паўгадзінная радыёперадача ў кожную суботу, у якой некалькі разоў гаварылася аб лёсе дзеячоў „Грамады"? Калі так, то вельмі добра, што ўрэшце беларусы пераканаліся, што ў мінулым яны, як і палякі, змагаліся за свае нацыянальныя правы. Урэшце зразумелі, што варта быць беларусам і ганарыцца гэтым. Шануюць беларусы сябе і сваю мову.

**Цяпер палякі зусім інакш глядзяць на нас. Часта паўтараюць: „Ого! беларуса ніхто і нішто не зломіць. Беларус гнецца, а не паддаецца. Ён усюды смела гаворыць: я беларус!"**

**Усім нацыям, пражываючым у Польшчы, стала добра вядомым, што беларусы вельмі талерантныя. З пашанай адносяцца да другіх нацый і другіх рэлігій, а таксама да культурных традыцый. Калі нейкі паляк пачне высмейвацца з іх гутаркі, тады беларус, не абражаючы польскай нацыі, назаве такога чалавека непаўнавартасным і адыдзе набок. Часам зда-**

**(Працяг на стар. 4)**

## НА МЯЖЫ

### АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (VII)

У ніякім выпадку горды чалавек не можа прыкладаць кансумпцыйнай меркі да такога паняцця, як нацыянальнасць. На жаль, такі кансумпцыйны падыход характэрны для многіх беларусаў. Як жа часта, ездзячы па школах і пераконваючы бацькоў у патрэбе навучання іх дзяцей роднай мове, мы чулі тыповае беларускае: „А якую карысць дасць дзіцяці гэта мова?“ Або: „А што дзіця з гэтага скарыстае?“ Такія пытанні сведчаць аб тым, што такія бацькі адразу пералічваюць усё на „карысць“, якая ў іх галовах найчасцей асацыіруецца з грашыма, з даходам, не прыходзіць ім у галаву справа нацыянальнага гонару, справа вернасці той мове, якая прыйшла да нас ад дзядоў і прадзедаў, справа пашаны да ўсяго роднага, у якой змяшчаецца і любоў дзіцяці да бацькоў. Вось гэтага найважнейшага ў жыцці капіталу многія ўвогуле не бяруць пад увагу. І гэта ўсё сведчыць аб убостве нашай нацыянальнай душы, з чаго чужыя могуць смяяцца, але мы павінны плакаць. Аднак, на такіх спатканнях бацькі падаюць і іншы аргумент. Выяўляецца ён найчасцей у словах: „Чаго там маё дзіця будзе белай варонай?“ Або: „Навошта маё дзіця маюць вытыкаць пальцамі?“

Што абазначаюць гэтыя не выдуманыя, а сапраўдныя сцвярджэнні, — усе мы ведаем. Абазначаюць яны тое, што ў польскім грамадстве ёсць не мала такіх людзей, якія з сапраўднай нянавісцю адносяцца да чужапляменнага элементу. Найгорш, што ў траўлю, высмейванне, празыванне ўсяго беларускага такія людзі ўцягваюць і сваіх дзяцей. Адчулі мы гэта асабліва моцна ў часы страшэннага разгулу экстрэмы „Салідарнасці“. У гадах 1980-1981 здараліся сімптомы адназначна небяспечныя і грозныя. Было вядома, што экстрэма рыхтуецца да вырашэння нацыянальнага пытання шляхам поўнай асіміляцыі няпольскіх элементаў. Як жа парадаксальна, недарэчліва ўсё гэта выглядала! З аднаго боку, заклікі аб чыстай у сэнсе нацыянальным польскай дзяржаве, а з другога боку, імкненне да падпарадкавання тэрыторый няпольскіх уключна з Вільняй і Львовам. Як важакі экстрэмы хацелі пагадзіць ідэю аднанацыянальнай чысціні з ідэяй літоўскіх, беларускіх і ўкраінскіх зямель — невядома!

Бяда ўся ў тым, што да сёння не мала ёсць у польскім грамадстве людзей, якім бракуе найменшай дозы таго, што называецца нацыянальнай ці рэлігійнай талерантнасцю. І якраз гэтых людзей баяцца многія беларусы. Калі я бацькам беларускіх дзяцей стараўся тлумачыць, што Народная Польшча кіруецца прынцыпамі нацыянальнай роўнасці і эмансіпацыі, калі спасылаўся на прыгожыя і глыбокія словы генерала Ярузельскага аб пашане да нацыянальных меншасцей, часамі чуў адказ тыпу: „Я жыву не побач з генералам Ярузельскім, а з адным суседам, які пагражаў мне не раз расправай“.

Ну і што можна сказаць на гэта? Сапраўды, нічога або вельмі мала.

Прычыну існуючага стану рэчаў схільны я бачыць, між іншым, у паставе часткі каталіцкага духавенства. Здаецца мне, што калі б каталіцкія святары выразна і адназначна гаварылі аб поўнай раўнапраўнасці ўсіх рэлігій і нацый, аб тым, што ўсякая нянавісць да другога вызнання і нацыянальнасці

(Працяг на стар. 4)

## Весткі з Беларусі

### РАСТУЦЬ САЎГАСЫ НА ПАЛЕССІ

На месцы зарослых хмызняком балот за сялом Фядоры Столінскага раёна Брэсцкай вобласці раскінулася ўрадлівая ніва. Меліяратары перадалі саўгасу „Бярэжцы“ звыш тысячы гектараў зямель.

Работы вядуцца з такім разлікам, каб да моманту ўводу ў дзеянне жывёлагадоўчага комплексу, разлічанага на адкорм шасці тысяч бычкоў у год, поўнасцю забяспечыць яго ўласнымі кармамі. Пастаўляць канцэнтраты будзе міжгаспадарчае прадпрыемства „Відзібор“.

Будаўніцтва памяшканняў комплексу і ўвод іх у строй вядзецца паэтапна. Па меры гатоўнасці іх запаўняюць жывёлай. На фермах ужо дагадоўваецца каля тысячы цялят. Садружнасць меліяратараў, земляробаў і жывёлаводаў дасць магчымасць скараціць тэрміны асваення праектных магутнасцей, хутчэй акупіць затраты на будаўніцтва.

Усяго на гэтай асушальнай сістэме саўгас „Бярэжцы“ атрымае пяць тысяч гектараў зямель.

На беларускім Палессі ў адзіным комплексе асушаюцца і асвойваюцца буйныя масівы. На адваяваных у балот землях адначасова ствараецца 25 саўгасаў мяса-малочнага напрамку. Тут пракладваюцца дарогі, ствараецца вытворчая база, будуюцца пасёлкі гарадскога тыпу. З пачатку гэтага года меліяратары перадалі гаспадаркам Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай абласцей 23 тысячы гектараў асушаных зямель.

### КОМПАС У КНІЖНЫМ МОРЫ

Калі сабраць разам усё, што напісана пра Мінск, адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі, дык атрымаецца цэлая бібліятэка, і да таго ж немалая. Але літаратура пра сталіцу рэспублікі пакуль не сістэматызавана. У хуткім часе гэты прабел будзе запоўнены. Бібліёграфы Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна рыхтуюць паказальнік літаратуры пра Мінск. У ім будзе адлюстравана ўсё, што напісана і выдадзена пра беларускую сталіцу, пачынаючы з далёкіх часоў.

Гэта даволі складаная, але пасільная для бібліёграфаў „ленінкі“ задача, лічыць галоўны бібліёграф Ніна Ватацы.

### СПОРТ

✻ На XIII сусветных студэнцкіх гульнях, якія завяршыліся ў японскім горадзе Кобэ, сярод прадстаўнікоў ігравых відаў спорту прымалі віншаванні і савецкія баскетбалісткі. У рашаючым матчы за залатыя медалі савецкая жаночая каманда перамагла спартсменак ЗША — 87:81. За савецкую каманду выступалі дзве баскетбалісткі з мінскага „Гарызонта“ — Галіна Савіцкая і Таццяна Белашапка.

✻ Вышэйшую ўзнагароду чэмпіёнкі Універсіяды па скачках у даўжыню атрымала беларуская студэнтка І. Валюкевіч з выдатным вынікам 7.04 метра.

✻ Спаборніцтвы мацнейшых канькабежцаў краіны прайшлі на штучным лёдзе ў Ленінградзе. Чэмпіён свету ў спрынтэрскім мнагабор'і беларускі спартсмен Ігар Жалязоўскі заняў першае месца на дыстанцыі 1 500 метраў.

✻ У вострай барацьбе вырашыўся лёс узнагарод чэмпіянату таварыства „Дынама“ па мастацкай гімнастыцы, які праходзіў у Львове. Апярэдзіўшы такіх вядомых у свеце спартсменак, як Галіна Белаглазава і Даля Куткайтэ, на вышэйшую прыступку п'едэстала паднялася 15-гадовая Марына Лобач з Мінска.




Wojna polsko-radziecka 1919—1920 w świetle dokumentów i relacji (wybór i komentarz: Jerzy Halbersztadt). „Mówią wieki” (W-wa). R. 1985, Nr 1, s. 26—31 (cz. I); Nr 2, s. 25—31 (cz. II); Nr 4, s. 25—32 (cz. III); Nr 6, s. 24—30 (cz. IV).

Elżbieta Wiśniewska — Janka Kupała i Jakub Kołas. Polsko-radziecka konferencja naukowa w stulecie urodzin. „Slavia Orientalis” (W-wa). R. 1983 (wyd. w 1985 r.), Nr 1/2, s. 177—181.

Jan Gierasimiuk — Zagospodarowanie Państwowego Funduszu Ziemi w praktyce gmin: Czeremcha, Dubicze Cerkiewne i Kleszczele w województwie białostockim. „Przegląd Geodezyjny” (W-wa). R. 1984, Nr 10, s. 14—17.

Alicja Lasota-Moskalewska — Ocena archeologiczna materiału kostnego z wczesnośredniowiecznego grodziska w Tykocinie. „Archeologia Polski” (Wrocław). R. 1984, Z. 2, s. 245—265.

Kazimierz Dunaj — Białostocka ziemia nieobiecana. „Rada Narodowa, Gospodarka, Administracja” (W-wa). R. 1984, Nr 26, s. 11—13.

Recenzja (autor: Irena Janowska) książki Sokrata Janowicza „Srebrny jeździec”. „Nowe Książki” (W-wa), R. 1984, Nr 12, s. 77—78.

Recenzja (autor: Roman Mazurkiewicz) książki Józefa Kellera „Prawosławie”. „Znak” (Kraków), R. 1984, Nr 7, s. 990—997.

Prawosławny monachizm. Rozmowę z Mironem Chodakowskim przeprowadził T. W. „Kierunki” (W-wa), R. 1985, Nr 10, s. 4.

Jerzy Tomaszewski — Kłopoty z mniejszościami. „Polityka” (W-wa). R. 1985, Nr 11, s. 11.

Ryszard Szadziewski — Przegląd faunistyczny krajowych kuczmanów z rodzaju Culicoides (Diptera, Ceratopogonidae). „Polskie Pismo Entomologiczne” (Wrocław). R. 1985, Z. 2, s. 283—341. (Podaje się m.in. dane o rozmieszczeniu gatunków na Białostocczyźnie).

**П. Байко**




### ВАЕННЫ ЧАД

Пасля трох гадоў зацяжной вайны, якую планавалі правесці як 48-гадзінную ваенную прагулку, эканоміка Ізраіля затрашчала па ўсіх швах. Працягваюцца масавыя звальненні рабочых і служачых. Да рэкорднага ўзроўню ўзрос кошт жыцця. Набірае тэмпы інфляцыя, якая ўжо перавысіла 400 працэнтаў. Грашовая адзінка краіны — шэкель — дэвальвіравана на 18,8 працэнтаў. Рэзка падскочылі цэны на асноўныя прадукты харчавання.

Аднак ваенныя, якія па вушы заселі ў дрыгве ліванскай вайны, усё яшчэ мараць аб ізраільскім „бліцкрыгу“. Армія кожны год з'ядае 7,4 працэнта валавога нацыянальнага прадукту. (Для параўнання: у Злучаных Штатах гэты паказчык роўны 7 працэнтам, а ў краінах НАТО — 4). „Я ўжо скараціў усё, што было магчымае, і нават больш“, — са злосцю заяўляе міністр абароны Іцхак Рабін, маючы на прыкмеце скарачэнне ваеннага бюджэту на смехатворную суму — 50 млн. долараў, гэта значыць прыкладна на 1 працэнт. Мілітарызацыя ідзе поўным ходам. На абавязковую ваенную службу прызываюцца дзяўчаты. Кожны грамадзянін Ізраіля абавязаны да старасці праходзіць штогадовую перападрыхтоўку. Паводле англійскага журнала „Мідл Іст Інтэрнэшнл“, вытворчыя страты з-за ваеннай істэрыі дасягаюць такой сумы, што яе цалкам хапіла б і на ахову здароўя, і на адукацыю, па якіх нанесены моцны ўдар у ходзе шматлікіх бюджэтных скарачэнняў.

Пасля знясільваючай ліванскай вайны ў Ізраілі наступіла цяжкое пахмелле, але выхад з яго тут шукаюць усё ў тым жа ваенным чадзе.

**В.К.**




Малюнак А. Папова (СССР).

# ХАЙ ЗАЎЖДЫ БУДЗЕ СОНЦА!

Ёсць справы на свеце, якія не маюць граніц. Справы, якія не могуць быць абыякавымі сёння нікому. І не важны пры гэтым ні нацыя, ні раса, ні светапогляд, ні партыйная прыналежнасць.

Найістотнейшай справай для чалавецтва канца XX стагоддзя з'яўляецца захаванне міру на Зямлі.

Сённяшняя складаная і напружаная міжнародная сітуацыя прымушае вядомых вучоных, лекараў, духоўных, прадстаўнікоў культуры і мастацтва біць трывогу: над светам навісла пагроза нуклеарнага самазнішчэння чалавецтва ў яго ж супольным доме — на планеце, імя якой Зямля.

У найглыбейшых закамарках памяці сённяшняга старэйшага пакалення нашай краіны яшчэ не зацерлася пекла другой сусветнай вайны. Яшчэ не раз будуць мучыць яго кашмарныя сны, будуць гучаць у вушах выбухі бомб і гарматныя стрэлы, будуць мроіцца пажарышчы і папялішчы ды дула варожай вінтоўкі, прыстаўленай да грудзей. І задрыжыць яшчэ не адно збалелае сэрца на ўспамін пра ўсё гэта.

Але другая сусветная вайна была толькі прэлюдыяй да таго, што нарыхтаваў сабе чалавек сёння. Ніколі свет не быў перапоўнены такім страхам, як цяпер.

Людзі добрай волі на розных кантынентах уздымаюцца і арганізоўваюць рух у абарону міру і захавання жыцця на Зямлі. Яны ўсё лепш разумеюць, што важнейшай справы сёння няма.

І таму менавіта 16 верасня г.г., у перапоўненай зале Беластоцкай філармоніі праходзіла мірная канферэнцыя пад лозунгам „Хрысціяне Беласточчыны для справы міру". Арганізаваў яе беластоцкі Камітэт абаронцаў міру па ініцыятыве члена прэзідыума гэтага камітэта Праваслаўнага епіскапа беластоцкага і гданьскага Саввы. У канферэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі розных хрысціянскіх цэркваў з Беластоцкага ваяводства. Прыехалі таксама рэлігійныя і свецкія прадстаўнікі руху абаронцаў міру з СССР, Балгарыі, Чэхаславакіі і Венгрыі. Прысутнічалі і гаспадары Беластоцкага ваяводства.

Вельмі сімвалічна, што канферэнцыя — пратэст супроць вайны і нуклеарнай пагрозы — адбылася ў сорак гадоў пасля другой сусветнай вайны менавіта ў Беластоку. Беласточчына падчас апошняй вайны страціла больш 300 тысяч жыхароў. Сёння, аднак, наш горад гэта ўжо не той Беласток, які сустракаў дзень вызвалення. Сёння гэта горад развітай прамысловасці, вышэйшых школ, горад маладосці і зелені, горад, які бурліць жыццём.

У часе Беластоцкай мірнай канферэнцыі былі прачытаны тры даклады: „Тэалагічныя прадпасылкі мірнай дзейнасці царквы" — епіскапа дац. др габ. Саввы Грыцуняка, „Хрысціяне перад пагрозай вайны" — пасла Сейма, члена Рады Дзяржавы і старшыні ХСЄ Казімежа Мараўскага і „Мір — неабходнасць нашых часоў" — дац. др габ. а. Захара Лыкі з царквы адвентыстаў сёмага дня.

Выступіў таксама Праваслаўны мітрапаліт усяе Польшчы Васілій, які шмат месца прысвяціў Пражскай мірнай канферэнцыі, што адбылася сёлета ў пачатку ліпеня і на якой прысутнічаў мітрапаліт.

Цяжка было б пералічыць на старонках газеты ўсіх выступаючых: загранічных гасцей — з прывітаннямі і пажаданнямі (асабліва цёпла сустрэлі прысутныя гасцей — мітрапаліта львоўскага і тарнопальскага Нікадзіма і епіскапа Яна з Міхайковіц, што ў Славакіі) — і ўдзельнікаў канферэнцыі.

Канферэнцыя паказала, наколькі спелае наша грамадства ў справах вайны і міру. Яна станоўча сцвердзіла, што хрысціяне не могуць стаяць збоку ад барацьбы за мір. Актыўны ўдзел у ёй іх святы абавязак. Адных заклікаў да самаачышчэння душ недастаткова. Не словы, а справы нам патрэбны.

Мір трэба пачынаць на штодзень ад сям'і, ад родзічаў і сяброў. Мусім адкінуць усё, што нас дзеліць, бо перш за ўсё мы людзі, і аб'яднацца ў абароне міру.

Чым больш падзелены свет, тым больш грамадзянам нашай краіны патрэбна ўнутраная еднасць і супрацоўніцтва ўсіх людзей, незалежна ад іх ідэйных перакананняў. Мірная, дастатняя Польшча з'яўляецца сёння ўмовай міру ў Еўропе. Канферэнцыя падкрэсліла, што актуальны абавязак грамадзян ПНР — актыўны ўдзел у выбарах.

Гляньма наперад з пэўнай дозай аптымізму! Хоць свет стаіць над прорвай, мір можа і павінен быць захаваны. Выбіраем жыццё, бо гэта наш найдаражэйшы скарб. Хай заўжды будзе сонца для тых, хто не бачыў кашмару вайны, для моладзі, якая не ведае канцэнтрацыйных лагераў і крэматорыяў, якая не разумее, што значыць знаходзіцца пад ботам акупанта і быць са смерцю на ты. Няхай заўсёды асвятляюць іх прыгожыя сонечныя прамені, а не страшэнны вогненны смерч Хірасімы і Нагасакі.



Канферэнцыя прыняла супольную адозву, у якой чытаем: „Мы, як хрысціяне, глыбока перажываем сапраўдныя прычыны цяперашняга імпасу ў міжнародных адносінах. Бачым іх галоўным чынам у духоўнай сферы. Недавер людзей вядзе да гонкі ўзбраенняў, неталеранцыя — да варожасці, высакамернасць — да араганцыі і дзеяння з пазіцыі сілы. Сучасны свет апынуўся над прорвай; экспансіўная палітыка гонкі ўзбраенняў, якую вядуць Злучаныя Штаты, стала прычынай таго, што небяспека нуклеарнай і касмічнай вайны наблізілася да такіх межаў, калі ніхто не можа аставацца абыякавым. У гэтай драматычнай сітуацыі, калі апынуліся ў небяспецы духоўны і матэрыяльны дарабак мінулых пакаленняў ды святы дар жыцця на Зямлі, станоўча супрацьстаўляемся злу, якое нясе вайна".

„Хай заўжды будзе сонца!" — спявалі малалеткі на заканчэнне канферэнцыі.

**Ада Чэчуга**

Фота Здзіслава Зарэмбы

## У ПОШУКАХ БЕЛАРУСКАГА

Колькі месяцаў назад я атрымала цікавую кніжку*), дасланую мне з Маладзечна. Хто яе аўтар? Думаю, што некаторым чытачам „Нівы" ён вядомы. У даведцы прачытала я, што з'яўляецца ён „былым работнікам музея". Па-мойму, гэтая звестка памылковая. Незалежна ад таго, дзе б не працаваў Г. Каханоўскі, усюды застаецца ён таленавітым даследнікам мінулага. Толькі ён мог напісаць гэткія словы: „Няма большай асалоды, як чытаць забытыя старонкі нашых гарадоў або нават знаёмых мястэчак ці вёсак"! Хто ж іншы так, як ён, не шкадуе сваіх ног ды часу, каб хадзіць з вёскі ў вёску, з хаты ў хату адно дзеля пошукаў не надта пэўнага следу, які, магчыма, пакінуў нейкі выдатны чалавек з мінулых стагоддзяў? У каго ж ёсць гэткая інтуіцыя, каб маючы перад сабою таямніцу з многімі невядомымі, здагадацца, ад чаго пачынаць развязваць вузлок? Здольны на гэта сапраўдны даследчык, у якога за плячыма вялізны вопыт і шырокае веданне прадмета. Пры гэтым аўтар часта выяўляе нам спосаб, дзякуючы якому ён адкрыў тую ці іншую таямніцу, а гэта мае немалое значэнне для пачынаючых даследнікаў.

Чаго шукае наш даследнік? Найлепш, бадай, назваў ён гэта сам: „Ці шмат у Маскве беларускага?" альбо: „Звон роднай зямлі". Дык вось, таго звону і гэтага беларускага будзе шукаць ён усюды. Кніжка падзелена на раздзелы: „З глыбіні памяці народнай", „Шляхамі вандроўнікаў", „Старыя сядзібы", „Абуджэнне", „Сляды на ранішняй расе", „Кожны край мае тых, што яго апяваюць". Кніжка дае нам уяўленне пра людзей і праблемы розных эпох. Цяжка ў кароткай рэцэнзіі перадаць яе змест. Аднак жа, варта падкрэсліць, што гэты аўтар выключна добра адчувае клімат паасобных перыядаў гісторыі, клімат рознага асяроддзя. Як ён дабіваецца гэтага? Зыходзячы з тых прадпасылак, што „Нашу ніву" „рабілі не толькі Купала і Колас" і што велізарны ўплыў на яе аблічча мела плеяда пастаянных карэспандэнтаў у правінцыі, аўтар не пашкадаваў сваёй працы, каб сабраць пра іх звесткі (часта надта падрабязныя). Такім чынам узніклі нарысы пра супрацоўнікаў „Нашай нівы", пра іх артыкулы ды псеўданімы, пра вершы і г.д. Вось яны: Стары Улас, Лявон Лобік, Язэп Шпэт, Язэп Піліпаў, Міхалка Петрукоў, Юзя Шчупак, Яша Светлячок, Мікола Мокры і іншыя (гэтых іншых не так і мала, але інфармацыі пра іх карацейшыя).

Ці трэба дадаваць, наколькі важны для даследчыка, які шукае нечага на старонках „Нашай нівы", менавіта гэты раздзел кніжкі Каханоўскага, дзякуючы якому без параўнання лягчэй нанава прачытаць гэту бясцэнную для нас газету. Тым не менш, самым каштоўным застаецца якраз клімат, спецыфічны клімат вакол „Нашай нівы".

**(Працяг на стар. 6)**

(Працяг са стар. 1)




раецца, што беларус увогуле нічога не скажа, і такі неразумны яго праціўнік пагаворыць сам з сабою і супакоіцца.

Беларусы - інтэлігенты або звычайныя рабочыя, пражываючыя ў горадзе, пачалі вучыць сваіх дзяцей беларускай мове. Яны ўжо ад маленства ведаюць, што яны беларусы і ганарацца гэтым. Летам едуць на канікулы да сваіх бабуляў і дзядуляў у вёску і, калі сядуць у аўтобусы ці ў цягнікі, гавораць выключна па-беларуску. Прыехаўшы ў родную вёску сваіх бацькоў, стараюцца памагаць дзядам у палявых работах. Старыя беларусы, якія не вельмі добра ўмеюць гаварыць па-польску, не ламаюць сваёй мовы, а гутараць з унукамі па-беларуску. Вось які час настаў! Аж прыемна паслухаць і паглядзець на ўсё гэта!

Прыязджаючыя на вёску вельмі хутка знаёмяцца з моладдзю цэлай вёскі. Малыя разам гуляюць, а старэйшыя разам ходзяць на дыскатэкі і кожны вечар спяваюць беларускія песні. Так як у міжваенны перыяд збіралася моладзь па вечарах і спявала песні, так і цяпер робяць гэта хлопцы і дзяўчаты. Толькі песні ўжо не тыя. Цяпер найчасцей спяваюць „Зорку Венеру“, „Беларусачку“ і іншыя модныя беларускія песні, а таксама і польскія. З зайздрасцю глядзяць дзяды на ўнукаў і кажуць: „Ох, каб нам вярнуліся маладыя гады, тады і мы паспявалі б, як цяпер спяваюць маладыя“.

Мяне адно цешыць: беларусы не цураюцца цяпер свайго паходжання і сваёй мовы. Хто ведае, мо праз дзесяць год будзе нас паўмільёна?

**Аўрора**

(Працяг са стар. 2)

### АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (VII)

гэта смяртэльны грэх, аб тым, што беларускасць і праваслаўе таксама мілы Богу, як і польскасць і каталіцызм, дык настроі і паставы многіх палякаў былі б іншыя.

Мне здаецца, што мы, шэрыя людзі, праваслаўныя і католікі, беларусы і палякі, а таксама вызнаўцы іншых вераванняў і сыны іншых нацыянальнасцей, маем поўнае права да таго, каб ва ўсіх святынях, незалежна ад таго, у якую з іх зойдзем, пачулі якраз такія простыя, шчырыя і сапраўды мілыя Богу і людзям словы.

Чалавек, які бегае па вуліцы з каменем і шукае галаву, у якую гэты камень хацеў бы кінуць, не павінен знаходзіць прыстанішча ў святыні. Такі чалавек не знойдзе пахвалы ў Бога. А калі так, дык не павінен знайсці яе ў храме.

Якраз школа і храм павінны быць тымі месцамі, у якіх дзіця, малады і дарослы чалавек павінен вучыцца любві да роднага і пашане да чужога.

**Алесь Барскі**



# А ХТО ЗЛОВІЦЬ МОЙ ВЯНОЧАК?

Лета чакалі мы, лета цёплага, мёдасытнага, спакойнага. Іду ў гэтае лета ў сваіх выцертых нагавіцах з зялёнага парусінага палатна, усё ў сваіх завялікіх чаравіках, з вечным Антонам Чэхавым у сэрцы. І ўсё капае дожджык на кудлатую чорную галаву, думкі падлівае. І хто яго ведае, што вырасце. Мама кажа: скінь ты хоць гэтыя чаравікі!

*

Многа хлапчукоў Адзін вельмі прагнучы пятнаццацігодак доўгі час намаўляў мяне, каб я „скамбінавала“ чагосьці асвяжальнага напіцца. Як ён мяне не зачапаў! Нават у вочы заглядаў, ды я не далася справакавацца, бо ў маім узросце ў час афіцыяльнай урачыстасці трэба ўжо захоўваць сур'ёзнае абліччa, а не размаўляць сабе на старане з пятнаццацігодкамі.

*

Дождж перастаў ісці, выпагадзілася неба. Сышла я ўніз да рэчкі. Глянула ўверх, калі разам са снапом іскраў узнялася ў зорнае неба „купалінка“. Цёмная рэчка ціха сунулася між сінімі берагамі. І песні плылі...

Ідзем уніз ракі, за вялікім вянком, які рассцілае чырвоны, жывы бляск на чорную ваду. Іншыя вянкі...

Іншыя вянкі — з белай канюшыны і дзяцеліны, святаянніку, вярбы, змеевіку, траваў і іншага зелля, якое расло на панадворку новаадкрытага клуба ў Рыбалах, — звілі мы яшчэ да навальніцы... Калі мы апусцілі галоўны вянец на ваду, дзяўчаты кінулі ў рэчку і малыя вянкі. „А хто зловіць мой вяночак?“ — са смехам прыгаварвала Бажэна з Гарадка. Хтось ужо распранаўся, каб бултыхнуць у халодную, поўную з берагамі Нарву, хтось лавіў вярбовы вянок. Хтось прынёс сінюю кашулю: „Чыя яна, чыя?“ А яна — Багдана. Не трэба было выкупляць фанта — Багдан і так набегаўся пры вогнішчы і транспарце вянка, які віла з іншымі дзяўчатамі з Рыбалаў яго сястра...

Малыя вянкі заблыталіся дзесьці ў трыснягу, а гэты, на лёгкім стырап'яне, вялікі, разложысты, з паўкруглымі, квяцістымі бакамі, акружаны ліпавым лісцем, плыве сабе сярэдзінаю рэчкі. Ідзем за ім, не спускаючы з яго вачэй. Зямля халодная, у босыя ступні колюць апаўшыя сасновыя шышкі, з болю аж падкульваю пальцы.

На палатачным полі турысты запалілі малое, дымячае ядлоўцам вогнішча. Хлопец брынкаў на гітары, дзіця забаўлялася з сабакам. У некаторых палатках у сярэдзіне свяцілася, і варушыліся бясформенныя цені раздзяваючыхся да сну.

*

— Ты мяне не ведаеш, і я цябе не знаю. І больш можа і не ўбачымся. Ну і добра. Можна спакойна паспавядацца.

Ён сказаў мне замнога. І аб тым, як стаў „цванякам“, як навучыўся „жыць“.

— І што мае мой бацька? Трыццаць гадоў Польшчу будаваў, а дарабіўся толькі мазалёў. Менш дабіўся за гэты час, чым я ў адзін год!

# ГЕРОЙ З ЗУБРОЎ

На парозе свайго дарослага жыцця служыў я на захадзе краіны ў Войску пагранічнай аховы. Сярод калег у часці, апрача мяне, не было больш нікога з беларусамоўнай часткі Беласточчыны. Аднак калісь тут быў і мой зямляк. Віктар Гапунік з вёскі Зубры служыў у той самай часці больш дваццаці гадоў таму назад. Далёка на захадзе ад родных мясцін хадзіў я па яго слядах. Яго камандзіры былі таксама цяпер маімі камандзірамі. Мой зямляк з'яўляўся для мяне ўзорам у вайсковай службе. Імя Віктара Гапуніка віднее сярод герояў Войск аховы пагранічча. Можа, таму гады маёй вайсковай службы для мяне былі і ёсць як штосьці ўрачыстае і вельмі важнае ў жыцці.



Калі салдаты канчаюць службу, то традыцыйна размалёўваюцца хусткі. Дамоў вяртаюцца з імі на плячах. На маёй хустцы віднела абліччa мужнага земляка, які не мог вярнуцца шчасліва, так як я, да родных ніў. Віктар Гапунік назаўсёды застаўся маладым салдатам, які загінуў у хвалях Нысы Лужыцкай, рацэ — сімвале дзяржаўнай граніцы ПНР.

Быў верасень 1954 года. Салдаты-курсанты унтэр-афіцэрскай школы Лужыцкай брыгады ВОП праходзілі практыку ў ахове граніцы. Сярод іх перадавік службы — яфрэйтар Віктар Гапунік.

У нядзелю вечарам, 26 верасня, ён сам звярнуўся з просьбай пайсці на службу ў начным патрулі. Вакол надрэчныя хмызнякі, начная цемрадзь і восеньская непагадзь. Па беразе ракі асцярожна і чуйна крочаць двое пагранічнікаў: яфрэйтар Віктар Гапунік і радавы Эдвард Кручэк. Пільна ўслухоўваюцца ў цішыню. Нічога падазронага не чуваць. Думкі міжвольна наплываюць у галаву.

Амаль год прамінуў, як Віктар у войску. У водпуску дома яшчэ не быў, хаця заслужыўся ўжо.

Калі я ў злосці буркнула, што я думаю аб гэтым, ён, гледзячы на свае боты, з крывой усмешкай сказаў:

— Ну, што ж, кожны сам сабе так уладжвае жыццё, як хоча і ўмее.

І больш мы не мелі аб чым гаварыць.

*

Мы йшлі залітым бетонам берагам начнога возера. З разваднога маста спускалася п'яная вясёлая група. Нейкае бабзно бляяла авечым галаском песню аб мараку, які карміўся выключна перцам.

— Буржуі загулялі! Бацькі дзецям, прыклад для грамадства, а калі вырвецца такі ў водпуск, то мора па калена! „Усе чужыя, ніхто нас не ведае, то дамо чаду!" — шчыры рогат радаснай кампаніі нёсся над ціхім возерам, дзе застылі знерухамелыя ў бязветры, аголеныя з парусаў мачты лодак — праклюнце, такая бязветраная пагода!

Ад вады цягнула дрыготкім холадам. Мы выйшлі на шашу. Было душна ад запаху ліпаў, цеснай сцяною тоўпячыхся пры дарозе.

Добра мець сябра, чалавека, з якім можна пагаварыць аб усім. Не веру я ўжо ў сяброўства дзяўчат, і не веру таксама ў летняе каханне. І добра мне сёння.

Проці нас сцежкаю плёўся зігзагамі невялічкі мужчына. Угледзеў нас, падышоў бліжэй, утаропіў у цемру вочы.

— Ой, людачкі, пазычце мне трошкі электрычнага току!

— Няма ў нас току, дзядзька.

— Ну, хлопчыкі, дайце хоць з кавалачак. Машына мая застрагла...

Хаця вельмі прыкра нам было, што не можам памагчы п'янаму шаферу, мы не маглі са смеху доўга супакоіцца.

На лугах ляжалі і стаялі сонныя каровы, павесіўшы цяжкія галовы, нейкі дзіўны конь у поўнач прагна скубаў траву, ліпы стаялі, старыя, густыя, і пахлі.

Як добра мець сябра. Ніколі мы ўжо не стрэнемся.

*

— У кожнай мінуты свой сэнс. Асабліва калі чуеш, як яна ўцякае, мінае. Калі я сама магу рашаць аб сабе, калі мяне нішто не путае, я ўсё магу яшчэ адвярнуць. Усё пачынаць спачатку, не крыўдзячы нікога, не шкадуючы нічога. Пакуль што на спакаваных чамаданах, усё ў дарозе.

Не думаю, што табе было б добра са мною. Шукаеш спакою, „даволі ўжо нагуляўся", кажаш. А што цябе так змучыла ў гэтай „гульні"? Нарэшце заўважыў ты бяссэнсіцу жыцця тваіх сяброў? Пабаяўся далей траціць сябе? І так гаворыш са мною, супакойваешся, бо я слухаць умею, і хачу слухаць людзей.

Замнога гаворыш, кідаеш мне пад ногі вялікія, вялікія словы. Раскідваешся словамі перад чужым чалавекам. Ніколі не буду „тваёй дзяўчынай". Не буду нічыёй. Можа, калі-небудзь дайду да таго, што стану свая.

**Міра Лукша**



**„Беларуская песня-85". А. Гаданьчук і І. Гаданьчук з Гданьска — адно з двух другіх месц сярод дуэтаў у сучаснай песні. Фота М. Гайдука.**

# У чаромхаўскім „паўшэхным"

Дом гандлёвы „Паўшэхны" ў Чаромсе з'яўляецца адным з большых цэнтраў дэталёвага продажу ў пасёлку. Тут можна купіць абутак, адзежу і харчовыя прадукты. У „Паўшэхным" купляюць жыхары Чаромхі і навакольных вёсак. За дзень праз гэты тавары дом праходзіць некалькі соцень чалавек. Найбольш заўсёды з раніцы — за малаком і хлебам, а таксама — калі прывязуць мяса і мясныя вырабы.

У спажывецкай секцыі, г.зн. унізе, працуе пяць прадаўшчыц. Кіраўнічка тут Аліна Кусачук. Хоць працуе нядоўга, яна ведае сваю прафесію і сочыць за парадкам.

У палове жніўня мы з кіраўніком мясцовага філіяла ГС Грышам Васілюком зайшлі ў краму, каб пабачыць, як там з таварамі. І хачу сказаць, што ацэнку трэба даць выдатную. Напіткаў — якіх хочаш. Каралінка, фруктон, хлебны квас, сталовая вада. А ўсё гэта з кляшчэлеўскай разлеўні. Кіраўнічка сказала, што з напіткамі ў іх ніколі няма бяды. Заўсёды ўсё атрымліваюць па заказу і тэрмінова. Няма таксама большых праблем з малаком і хлебам. Вельмі рэдка бываюць недахопы. Такі здарыўся 14 жніўня, калі ўвогуле не прывезлі малака. Проста, шафёр з малачарні не перадаў заказу. На інтэрвенцыю кіраўніка філіяла і сакратара ГК ПАРП у Чаромсе разліўное малако прывезлі а гадзіне 14 — 300 літраў. Вядома пакупнікоў тады знайшлося мала, і 180 літраў на другі дзень трэба было звярнуць на корм свінням.

— З малаком так бывае, — гаворыць пані Аля, — закажаш многа — застанецца, менш — не хапае. У месячным маштабе ў нас каля 10 працэнтаў малака трэба звяртаць. Але цяжка ўгадаць, колькі спатрэбіцца людзям.

А Грыша Васілюк пацвярджае:

— У нас такі закон: у краме павінна быць 23 асартыменты харчовых прадуктаў — хлеб, крупы, мука, макарон, цукар, рыс, запалкі і т.п. І гэтыя тавары ў нас ёсць пастаянна. Горш з іншымі таварамі, якія атрымліваем з Гайнаўкі. На заказаныя 40-50 асартыментаў атрымліваем палавіну. Найгорш справа маецца з перцам, лаўровым лістом, жэлацінам.

— А з мясам?

— Яго маем удосталь. Не выкарыстоўваем нават сваёй нормы. Бывала, прадавалі свіное мяса без картачак, бо, напрыклад, выключылі электрычнасць, халадзільнік не працаваў, а трымаць мяса незамарожанае — значыць марнаваць яго. Лепш людзям прадаць. Хацелася б, каб атрымлівалі мы больш гатовых мясных вырабаў. Аднак гэта пакуль немагчыма, бо кляшчэлеўская каўбасная мае абмежаваныя магчымасці перапрацоўкі.

Спажывецкая секцыя. Гадзіна 13, цішыня. Але заўтра раніцай усё тут ажыве — прыдуць жыхары чыгуначнага пасёлка, каб купіць неабходныя харчовыя прадукты.

**Ул. Сідарук**

Трэба яшчэ пачакаць некалькі дзён, пакуль закончыцца гранічная практыка. Успамінаецца родная хатка пад лесам, дзе правёў дзяцінства. У ёй часта адбываліся падпольныя сходы членаў КПЗБ. Бацька быў камуністам. Пасля, пры савецкай уладзе стаў ён дэпутатам у сваёй вёсцы. Тады Віця пачаў хадзіць у школу. Якія радасныя былі гэтыя часы вучобы. Вайна іх спыніла. Сённяшняя цёмная ноч напамінае тыя страшныя ночы гітлераўскай акупацыі. Бацька сядзеў некалькі месяцаў у беластоцкай турме за „палітычныя погляды". Уся сям'я магла кожнага дня спадзявацца найгоршага. Пяцёра малых дзяцей. Але пашчаслівілася перажыць пакутлівыя гады. Зноў была магчымасць вучыцца. Пасля вучобы Віктар па прыкладу бацькі і старэйшага брата Аляксандра ўключыўся ў грамадска-палітычную дзейнасць за ўмацаванні новага справядлівага ладу ў краіне. Закончыў Народны універсітэт. Працаваў у павятовым праўленні ЗМП у Саколцы, а потым — у ваяводскім у Беластоку. Хлопец з беластоцкай вёскі Зубры быў дэлегатам на злёце польскай моладзі ў Варшаве, які праходзіў летам 1952 года. Жыццё змянялася на лепшае, нясло надзею на светлую будучыню.

Летам 1953 года цяжка захварэў бацька. Віктар прывёз яго ў беластоцкую бальніцу, аднак нішто гэта дапамагло. Бацька памёр, а ўвосень 1953 года Віктар Гапунік атрымаў прызыў у армію. Прывыкшы быць добрасумленным грамадзянінам, ён не хацеў адтэрміноўкі з увагі на смерць бацькі...

...Віктар прыслухаўся. Недзе спераду ў хмызняках пачуліся шолахі. Не, гэта не вецер. Хтосьці прабіраецца да граніцы. Заступіць яму дарогу ад ракі!.. Віктар кінуўся бегчы берагам. Неўзабаве перад ім пачуўся плюск вады: раз, другі. У той час радавы Кручэк выстраліў ракету. У яе святле зарысаваліся дзве постаці, адплываючыя ад берага. Доўга не думаючы, Віктар кідаецца за імі ў ваду, трымаючы высока вінтоўку. Недалёка перад ім жанчына, а далей — мужчына. Некалькі паскораных рухаў пагранічніка — і ён прытрымаў жанчыну. Выбеў яе на бераг і перадаў сябру. Сам зноў кінуўся ў ваду ў пагоню за злачынцам, які быў усё далей. Не зважаючы на пранізлівы холад і небяспечныя віры ў рацэ, салдат не адступаў. У такіх абставінах не кінуў зброі, але і не страляў ва ўцякача ворага. Разлічваў на свае сілы. Аднак злавесная стыхія ракі перамагла маладога героя. Калі прыйшоў ратунак, было ўжо позна.

Віктар Гапунік пасмяротна быў павышаны да звання капрала і ўзнагароджаны Крыжам Храбрых (Walecznych). З увагі на свой несмяротны подзвіг увайшоў у гісторыю як герой Войск ахові пагранічча. Аддаў свой найбольшы скарб — маладое жыццё ў абароне дзяржаўнай мяжы. Для многіх маладых пагранічнікаў стаў узорам мужнасці, адвагі і патрыятызму. На беразе Нысы Лужыцкай на месцы, дзе ён загінуў, пастаўлен цяпер абеліск. Яго імя прымаюць маладзёжныя арганізацыі ў прыгранічнай зоне.

Як жа балюча чытаць сёння пісьмы Віктара з войска, у якіх ён паведамляў аб добрым здароўі і поспехах у службе. Чакаў водпуску, каб прыехаць дахаты, да родных. 27 верасня 1954 года прыйшла трагічная тэлеграма: „Просім неадкладна прыехаць. Ваш Віктар апынуўся ў няшчасным выпадку". Мужнага салдата везлі праз цэлую краіну да яго роднай зямлі, дзе ён нарадзіўся і вырас адданым сынам Айчыны. Цела героя назаўсёды спачывае ў чатырох кіламетрах ад месца нараджэння, на могілках у Мастаўлянах. Памяць аб яго кароткім, але светлым жыцці жыве.

**Ян Мордань**

дэлегацыя дуброўскай арганізацыі ЗСМП. Рапартавала яна ўладам пра актыўны ўдзел моладзі Дуброўшчыны ва ўсіх сельскагаспадарчых працах, асабліва ж у кампаніі „Кожны колас не павінен прапасці і не можа згарэць". За маладымі рушылі дэлегацыі з дажыначнымі вянкамі ды дарамі палёў, агародаў і садоў з розных гмін Беласточчыны. Каляровыя, узорыстыя строі, старадаўнія польскія і беларускія народныя песні надоўга апанавалі стадыён. Гледачы з жывым зацікаўленнем успрынялі і ўзнагародзілі гучнымі воплескамі дасканала праспяваныя беларускія народныя песні дажыначнымі дэлегацыямі з Дубровы Беластоцкай і Кляшчэляў.

I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП У. Каладзеюк ў сваім выступленні ад імя кіраўніцтва ваяводства павіншаваў сялян са святам плёну і падзякаваў за ахвярную працу, вынікам якой быў добры сёлетні ўраджай.

Затым стадыёнам авалодала моладзь. Народныя карагоды і танцы чаргаваліся з самымі моднымі рытмамі, паўставалі і рассыпаліся мудрагелістыя фігуры і кампазіцыі, ігралі духавыя аркестры з Дуброўскага агульнаадукацыйнага ліцэя і Лапскага аб'яднання механічных школаў. На змену моладзі прыйшлі самадзейныя харавыя і танцавальныя калектывы.

А на выставачнай пляцоўцы ўдзельнікі ўрачыстасці знаёміліся з лепшымі дасягненнямі раслінаводства і гадоўлі на Беласточчыне. Е. Невяроўскі са Шпакава гм. Ясвілы, С. Федаровіч з Багнаў гм. Дуброва і іншыя ганарыліся тут сваімі лаўрэаткамі-красулямі — рэкардзісткамі ў надоях. З. Манюшка са Слаўна, К. Цюра з Асмалоўшчыны, Т. Святліцкі з Врончаншчыны (усе з Дуброўскай гміны) прывялі на паказ таксама лаўрэатаў — коней уласнай гадоўлі славутай сакольскай пароды. Не меншым зацікаўленнем карысталіся рэкардзісткі-авечкі, якіх прывезлі на выстаўку Б. Гаркоўскі з Кузніцы, А. Камінскі з Яцвезі і М. Ярома з Новага Стойла (абодва з гміны Сухаволя) і іншыя. Гадоўцы футравых звяркоў прыехалі з лісамі, янотамі, шыншылямі ды мноствам усяго іншага, чыё футра падабаецца модніцам.

I хоць сек назойлівы халодны дождж ды дзьмуў пранізлівы вецер, але ў Дуброве гэта быў цёплы, светлы дзень — Свята плёну працавітага сялянскага года 85.

**М. Гайдук**
Фота аўтара



**На выстаўцы жывое зацікаўленне выклікалі новыя гатункі бульбы.**



**Самая маладая на Дажынках 85, „вяночная" дэлегацыя з гміны Крынкі.**



# Сэрдэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Я ўжо ў апошнім класе ліцэя, навесну скончу сваю адукацыю, пачнецца жыццёвая проза. Калі аб гэтым падумаю, дрыжыкі праходзяць па ўсім целе. Што чакае мяне? Неакрэсленая праца і, калі добра пойдзе, не лепш акрэслены муж. Будзем жыць нібы супольна, але дзяліць нас будзе розніца характараў і ўрэдная свякруха. Пойдуць дзеці, сварка, пабоі і, як вынік усяго гэтага, развод. Перспектыва мала спакуслівая. Тое, што бачу і чую навокал, не настройвае на аптымізм. Ведаю, няма ідэальнага шлюбнага жыцця, але я не здолею змагацца з тымі заганамі, якія апанавалі гэты сямейны інстытут. Наступіў глыбокі крызіс у адносінах паміж мужам і жонкай. Чым гэта ўсё скончыцца?

**Ліцэістка**

Аднак шчаслівых сем'яў цяпер не менш, чым паўвеку назад. Па выніках сацыёлагаў, 70 працэнтаў сем'яў лічаць сябе шчаслівымі, 25-27 працэнтаў — задавальняючымі і толькі 3-5 няўдачнымі. Разводы менавіта растуць за лік няўдачных сем'яў. Няўстойлівыя, „лянівыя" шлюбы, якія не знаходзяць сіл будаваць і дабываць шчасце самастойна, сталі распадацца свабодней і часцей. Так што твой празмерны песімізм не мае навуковых падстаў, ды і ў жыцці справа не так трагічна выглядае! Больш веры ў людзей добрых! Яны ёсць. Праўда, не заўсёды з'яўляюцца на нашае жаданне. Пашукай іх.

**ч.в.а. Сэрцайка**

# Беларуская ПРЭСА

Да 20 кастрычніка б. г. ідзе падпіска на савецкую прэсу. Гадавую падпіску прымаюць аддзелы РСВ „Прэса-Кніжка-Рух". Там можна атрымаць дакладныя інфармацыі адносна ўмоў падпіскі. Чытачам „Нівы" прапануем кароткі агляд найбольш вядомых газет і часопісаў БССР, на якія можна зрабіць падпіску індывідуальна ці на розныя ўстановы (школу, клуб і т.п.).

— „Звязда" — орган ЦК КПБ, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР. Гэта штодзённая газета, якая інфармуе аб палітычным, гаспадарчым і грамадскім жыцці. Цана падпіскі — 600 зл.

— „Чырвоная змена" — орган ЦК Камсамола Беларусі. Штодзённая газета для моладзі. Апрача палітычна-грамадскіх і гаспадарчых інфармацый друкуюцца ў ёй матэрыялы, звязаныя з жыццём маладых людзей у рэспубліцы. Цана падпіскі — 512 зл

— „Беларусь" — ілюстраваны штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс — орган Саюза пісьменнікаў БССР. Знойдзеце ў ім багата фотарэпартажаў і цікавых матэрыялаў з жыцця Беларусі. Пазнаёміцеся з дасягненнямі беларускага народа. Даведаецеся пра многіх выдатных людзей з гісторыі і сённяшняга дня. Пачытаеце творы беларускіх пісьменнікаў. Ёсць у „Беларусі" аб спорце, гумар, красворд і куток шашак і шахматаў. Часопіс

(Працяг на стар. 8)

гідлівасцю пляваццa. Сярод яе хрыпаў я разабраў адно слова — мама-а!.."

Калі з настаўніцкай паказалася „вучыцелька", каля выпацканай у тлушч вучаніцы заставаўся адзін я.

Настаўніца са спачуваннем паківала галавой, загадала малой выцерціся ды зачыніла за сабой дзверы.

— Хадзі! — тузануў я дзяўчынку за руку. — I не румзай!

Вучаніца насцярожана глянула на мяне заплаканымі вачыма, ікнула, але за мной пайшла.

На падворку з трыма ранцамі знайшоў нас Ваня: ён вырашыў, што на першы дзень навукі з нас хопіць аж занадта.

— Дзе вы гэтулькі часу прападалі? — накрычаў на нас Кучынскі. — Чакай вас тут і чакай... Што, мне рабіць няма чаго?

4

Праз некалькі мінут мы трое валакліся па вуліцы. Малка (так звалі маю новую знаёмую), успамінаючы, залівалася слязьмі. Ваня яе суцяшаў, я ж не знаходзіў для гэтага слоў і не толькі таму, што не ведаў па-польску, — да такіх сентыментаў не быў прывучаны.

У месцы, дзе касабокі і трухлявы ганак выходзіць аж на тратуар, Малка ўжо заплакала ўголас ды павяла нас на прыступкі. Адразу мы апынуліся на кухні, заваленай старымі ботамі і скрынямі — там смярдзела нявырабленай скурай, клеем, цыбуляй і селядцамі.

Аднекуль з'явілася тоўстая яўрэйка.

Малка загаласіла яшчэ мацней ды ўткнулася ёй у брудны фартух.

На лямант паказаўся ў чорным балахоне стары са снежнабелай барадой, за ім — рыжы дзядзька з недаробленым чаравікам у руках. Мужчыны цярпліва выслухалі Малку, за нешта на яе накрычалі і зніклі. Маці пачакала, калі дачка супакоіцца, папракнула яе ў нечым таксама ды адпусціла.

Цяжка ўздыхнуўшы, тоўстая кабета ўзяла міску, паставіла на перавернутую скрыню, насыпала бульбы ды запрасіла ўсю нашу кампанію есці. Ваня і не падумаў адмаўляцца — адразу прымасціўся ля Малкі. Я ж, прывучаны ў чужых нічога не браць, доўга матляў галавой, і мяне ўсё ўпрошвалі, хоць есці хацеў. Нарэшце, каб адчапіцца, нагнуўся, узяў адну бульбіну. Бульба апякала рот, але я не пераставаў дзівіцца.

Было з-за чаго, мяркуйце самі.

На Малку Франэк з сябрамі напаў, а бацькі на яе яшчэ і накрычалі.

Ногі мае — чорныя ад загару, а настаўнік адправіў мяне ў мыцельнік.

Паненкі з бантамі абураліся не таму, што булка валялася ў пяску, а — што яе браў я рукамі.

Столькі збілася ў мястэчку народу ды — ні гумна, ні плота, ні каровы, ні свінні, а нават — ніводнага пеўня.

Як яны тут могуць гэтак жыць?!

Бедны Ваня, бедная Малка!

**Аляксей Карпюк**

# БЕЛАРУСКАЯ ПРЭСА

(Працяг са стар. 7)

займальны і цікавы для шырокага круга чытачоў. Цана падпіскі — 264 зл.

— „Работніца і сялянка“ — ілюстраваны штомесячны часопіс не толькі для жанчын, хаця ім прысвячаецца найбольш матэрыялаў. У ім разнастайныя матэрыялы, займальна напісаныя. Знойдзеце ў часопісе літаратурныя творы, рэпартажы, старонку для дзяцей, пісьмы чытачоў, гумар і бясплатны дадатак, дзе ёсць узоры для шыцця, вышыўкі і вязання, кулінарныя і іншыя парады гаспадыням, а нават песні з нотамі. У параўнанні з папулярнай у нас „Пшыяцюлкай“, „Работніца і сялянка“ напэўна не менш цікавая. Цана падпіскі — 360 зл.

— „Літаратура і мастацтва“ — орган Міністэрства культуры і Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Змястоўная і каштоўная штотыднёвая газета для тых, хто цікавіцца літаратурнай творчасцю, мастацтвам і культурай. „ЛіМ“ асвятляе развіццё і пытанні літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага жыцця ў БССР і за мяжою. Ёсць хроніка культурнага жыцця на Беларусі, новыя творы пісьменнікаў, крытычныя і біяграфічныя артыкулы, нарысы. Часта ў газеце можна сустрэць матэрыялы з беларускага грамадска-культурнага жыцця ў нашай краіне і яго сувязях з БССР. Цана падпіскі — 520 зл.

— „Полымя“ — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс, орган Саюза пісьменнікаў БССР. У кніжным выданні друкуюцца творы беларускіх пісьменнікаў, пераклады з іншых моў класікаў сусветнай літаратуры, а таксама артыкулы па пытаннях беларускай літаратуры і мастацтва, грамадска-палітычнага характару, з гісторыі, эканоміі, культуры Беларусі і іншыя матэрыялы. Гэта сур'ёзны часопіс для сур'ёзнага чытача. Цана падпіскі — 1416 зл.

— „Маладосць“ — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс, орган ЦК ЛКСМБ і СП БССР. У кніжным фармаце друкуюцца творы беларускіх пісьменнікаў і пераклады літаратурных твораў з іншых моў, публіцыстычныя, крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, фотарэпартажы і іншыя цікавыя матэрыялы з галіны літаратуры, навукі, культуры і мастацтва. Багата прадстаўлена ў часопісе жыццё беларускай моладзі. Цана падпіскі — 1920 зл.

— „Нёман“ — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс на рускай мове, орган СП БССР. У кніжным фармаце друкуюцца творы пісьменнікаў, якія пішуць на рускай мове і жывуць у БССР, пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў і пісьменнікаў іншых народаў на рускую мову. Тут таксама артыкулы і іншыя матэрыялы на тэмы: гісторыі, навукі, літаратуры, культуры і мастацтва. Цана падпіскі — 1128 зл.

— „Вожык“ — сатырычны і гумарыстычны ілюстраваны часопіс. Выдаецца 2 разы ў месяц. Багата ў ім фельетонаў, памфлетаў, гумарыстычных апавяданняў, баек, вершаў, пародый, сатыры, карыкатуры, гумарыстычных малюнкаў і жартаў. Цана падпіскі — 336 зл.

— „Вясёлка“ — штомесячны дзіцячы часопіс, які разлічаны на дзяцей з малодшых класаў. Друкуе вершы, апавяданні, казкі, песні для дзяцей, а таксама апісанне гульняў і забаў і лепшыя творы дзіцячай творчасці. Часопіс багата і калярова ілюстраваны. Прапануецца ўвазе бацькоў і настаўнікаў. Цана падпіскі — 168 зл.

— „Бярозка“ — штомесячны ілюстраваны часопіс для школьнай моладзі. Друкуе літаратурныя творы, матэрыялы з жыцця школьнай моладзі, краязнаўчыя і пазнавальныя матэрыялы з розных галін ведаў, парады маладым тэхнікам, натуралістам, спартсменам, вясёлыя гульні, забавы. Цікавы і карысны часопіс для школьнікаў. Прапануецца ўвазе настаўнікаў. Цана падпіскі — 324 зл.

Выбар багаты, і кожны чытач можа падабраць сабе газету ці часопіс па густу і згодна са сваімі зацікаўленнямі.

**Ян Мордань**




Пасля агляду будынкаў і зямлі гаспадары запрашалі гасцей за стол. У часе даволі сціплага пачастунку кранала вельмі істотную справу пасагу. Гэта праблема была вельмі важнай і супярэчлівай. Справа ў тым, што сям'я дзяўчыны хацела даць як найменей, а сям'я хлапца — атрымаць як найбольш. Калі ў розглядах прымала ўдзел таксама маладая, магло дайсці да свайго роду канфлікту паміж ёю і яе бацькамі. Канфлікт гэты мог паявіцца тады, калі дзяўчыне вельмі падабаўся хлопец, яго сям'я і яго гаспадарка і калі яна вельмі хацела выйсці за яго замуж. У такой сітуацыі дзяўчына, як бы ўжо адчуваючы сябе членам новай сям'і, хацела, каб яе пасаг быў як найбольшы. Трэба памятаць аб тым, што форма і размеры пасагу акрэслівалі пасля вяселля пазіцыю маладой жанчыны ў новай сям'і. Чым болей яна ўносіла свайго пасагу, тым болей важыў яе голас ва ўсякага тыпу справах і канфліктах. Жанчына, якую ўзялі замуж „голую“, павінна была лічыцца з тым, што на працягу многіх гадоў будзе істотай, пагарджанай не толькі сваімі свёкрамі, але і мужам. У сямейным жыцці маладая жанчына, у выпадку непаразуменняў і канфліктаў, мела выключнае права карыстацца тым, што ўнесла ў новы дом. Справа гэта набірала асаблівай вагі, калі даходзіла да падзелу гаспадаркі паміж новаўтвораным сужонствам і бацькамі маладога гаспадара або яго братамі. У часе такіх падзелаў нявестка ці братовая магла забраць усё тое, што ўнесла з сабой у форме пасагу.

Зразумела, што ў часе размоў, звязаных з пасагам, у часе якіх, як ужо мы сказалі, бацькі дзяўчыны хацелі даць як найменей, а бацькі хлопца імкнуліся атрымаць як найбольш, маладая толькі нясмела і асцярожна магла выказвацца ў гэтай справе. Яе правы ў бацькоўскім доме былі невялікія і кожнае катэгарычнае ўмяшацельства яе ў размову магло б для яе скончыцца плачэўна. Варта прывесці тут вельмі характэрнае выказванне жыхаркі Масева Кацярыны Даратынка: „Так вано злажылaсо, што бацькі, едучы ў розгляды, узялі і мане з сабою. Я то ўстыдаласа і вэльмі ў закамаркі не ўлазіла, затое нашы мама залезлі ўсюды, у кажну шчыліну. І машкі развазалі, і кублы адкрылі, і кажухі палічылі, і навет папробвалі даіць карову, каб даведацца, чы вана не цьвэрда. І калі ўжэ мы селі за стол і ўзяліса за пачастунок, то зараз і пачалі гаварыць пра пасаг. Мне гаспадарка і сям'я панаравіласа і, ходзячы сабе па гаспадарцы, я ўжэ бачыла сябэ як гаспадыню і таму, калі загаварылі пра пасаг, то мне хацелася, каб бацькі далі як найбольш. А тут, Божа мой, як тато і мама ні ўпруцца! Што толькі ні запатрабуют бацькі маладого, то тато і мама адразу — ні дамо! Ну, думаю, што ж гэта ваны, хочут мане зусім голу з хаты выпхнуць? Мне вэльмі хацеласо падсказаць маме, што мы ж ужэ і не такія бедны і што можно было б тоесёе даць. Круцілася я, варцелася, але так і не адважыласа нічого сказаць. Але, на шчасце, тато і мама памалу памякчэлі, дадавалі, дабаўлялі і ў канцы канцоў і кароўку далі, і авэчку далі, і крыху грошэй далі. Ну, то ужэ, вано вадомо, і ў сэрцы мне адлегло. Так што я прышла ў чужую хату можэ не валікаю панею, але гаспадынею ні горшаю, чым другія бабы“.

Выказванне вельмі добра перадае атмасферу перажывання кандыдаткі ў жонкі. Трэба аднак сказаць, што вельмі часта гаспадарка і сям'я маладога рашуча не адпавядалі бацькам маладой, і ў такім выпадку вяселле распадалася.

Нярэдка здараліся і такія выпадкі, што стораны ніяк не маглі дайсці да пагаднення ў справе пасагу, што разыходжанні паміж патрабаваннямі бацькоў хлопца і магчымасцямі бацькоў дзяўчыны былі вельмі вялікія.

У часе розглядаў канчаткова справа пасагу не вырашалася. Фіналізавалася яна падчас чарговага акту вясельнага рытуалу — ладоў.

Лады канчаткова вырашалі характар і размеры пасагу. Пачынаючы ад іх вяселле станавілася амаль што фактам.

**А. Баршчэўскі**




## КЛАДОЎКА ВІТАМІНУ С

Напэўна сярод чытачоў „Нівы“ няма такога, які б не ведаў ружы. Сваёй усеагульнай папулярнасцю ружа абавязана прыгожым кветкам і рэдкай у раслін моцы ўздзеяння на псіхіку чалавека, падавання далікатных духоўных пабуджэнняў. Колькі паэтаў услаўляла красу яе кветак! Колькі жанчын вымаўляла доўгачаканае „так“, захапляючыся духмянасцю букету ружаў! Хто не верыць у надзвычайнае ўздзеянне кветкі ружы, няхай уважліва паназірае за адвольна выбранай імянінніцай. Дзяўчына ці жанчына ўсялякія кветкі прымае з вялікім задавальненнем і ўдзячнасцю, але непаўторны, немагчымы для апісання, таямнічы бліск вачэй з'яўляецца толькі тады, калі машынальна нюхне яна букет прыгожых кветак ружы.

Апрача пабуджэнняў для духа, ружа — гэта надзвычай карысная расліна для чалавечага цела. Авіцэнна, пра якога мы ўжо некалькі разоў згадвалі ў „Таямніцах“, яшчэ больш за тысячу год таму назад пісаў: „Ванна з напаранняў з ружы ліквідуе непрыемны пах поту. Вывар з пялёсткаў ружы, як цёплы кампрэс на пухліну, дапамагае разагнаць яе, ліквідуе хваробу „ружу“. Такія кампрэсы — незаменнае лякарства пры лячэнні абдзёртых месц паміж сцёгнамі і пад пахамі. Некаторыя сцвярджаюць, — гэта словы Авіцэнны, — што ружа дапамагае выходзіць з цела вастрыям стрэлаў і занозам. Вывар з ружы сунімае галаўныя болі. Насенне ружы, або вінны вывар з іх (нарыхтаваны на віне) узмацняе дзясны і дапамагае ад болю ў вушах. Вывар з сухіх ружаў, ружавае масла (алей) або сок, выціснуты з зялёных сцяблінаў, зрэзаных разам з лісцем, кветкамі і пладамі, хутка ліквідуе пухліну з павекаў. Белыя кончыкі кветкавых пялёсткаў лечаць запаленчыя станы вачэй. Сок з ружы ўжываюць таксама пры крывавым кашлі. Варэнне з ружы на мёдзе ўзмацняе страўнік і паляпшае страваванне; яго рэкамендуюць пры расстройствах страўніка і пячонкі. Ружавае масла (алей) або выціснуты сок супрацьдзейнічаюць запаленчым станам страўніка“.

Многа з спасцярогаў Авіцэнны пацвердзіла сучасная медыцына, а некаторыя яшчэ даследуюцца. Цяпер няма ніякіх сумненняў, што плады ружы — гэта найбольшая кладоўка аскарбінавай кіслаты, якую называем вітамінам С. Вучоныя акрэслілі, што ў пераліку на адзінку вагі (напрыклад 10 грам) у пладах ружы знаходзіцца ў 40-50 разоў болей вітаміну С, чым у пладах чорнай парэчкі і больш чым у 100 разоў болей, як у яблыку ці лімоне. Варта таксама прыгадаць, што натуральная аскарбінавая кіслата з ружы, парэчкі, лімону ў 3-5 разоў болей актыўная ад сінтэтычнай, што ў таблетках. Вядома ж, што чалавечы арганізм не вырабляе аскарбінавай кіслаты і не назапашвае яе, таму неабходна няспынна папаўняць гэты вітамін у арганізме. Хто не можа спажываць фруктаў, той павінен піць ружавую гарбату. Нарыхтоўваюць яе з высушаных маладых сцяблін ружы, зрэзаных разам з лісцем, кветкамі і пладамі; напарваюць іх таксама, як звычайную гарбату. Пры авітамінозе прымаюць наліўку з ружы. Нарыхтоўваюць яе ў прапорцыі: адну сталовую лыжку пладоў ружы на адну шклянку вады. Сухія плады трэба змалоць у млынку для кавы, заліць кіпетнем і паставіць на 2-5 гадзін, затым працадзіць, пасаладзіць (адзін грам цукру на шклянку напарання) і піць перад ядой па паўшклянкі. Гарбата з сцяблін ружы і наліўкі з яе пладоў маюць незвычайныя прафілактычна-лячэбныя ўласцівасці: умацоўваюць арганізм, дзейнічаюць супраць склерозу, а таксама супрацьінфекцыйна і супрацьзапаленча. Спажыванне такой гарбаты або наліўкі карысна ўздзейнічае на цэнтральную нервовую сістэму, сэрца, лёгкія і стрававод, пры гэтым не заўважаюцца ніякія шкодныя дзеянні. Амерыканскі лекар праф. Паулінг даказвае, што вельмі вялікія дозы натуральнага вітаміну С могуць засцерагчы ад хваробаў, якія звязаны з прастудай, а таксама ад грыпу. Калі яго прымаць на пачатку захворвання, то хвароба праходзіць лягчэй і хутчэй.

Ружа мае значнае гаспадарчае значэнне. Пялёсткі яе кветак ужываюць для вытворчасці ружавага масла (алею). З пладоў нарыхтоўваюць варэнне, віно і г.д. Я асабіста рэкамендую спажываць ружу ў сырым выглядзе. Сабраныя плады трэба прамыць, абсушыць, разрэзаць і ачысціць з зярнят. Змяшаць з цукрам у прапорцыі: кілаграм ачышчаных пладоў з кілаграмам цукру прапусціць цераз машынку для малацця мяса і затым расцерці валкам або вымешаць у міксеры, пакласці ў слоікі і захоўваць у халодным месцы.

**Б. Паскробка**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Настаўніца Ніна Ваўрэнюк са сваімі вучнямі чацвертага класа ў Чыжах.*

## Сардэчна дзякуем

**Набліжаецца Дзень Настаўніка.**

**У гэты дзень усе мы памятаем пра сваіх выхаваўцаў, стараемся быць асабліва мілымі і сімпатычнымі для іх, прыносім кветкі. Не забудземся зрабіць гэта і сёлета. Але варта памятаць, што настаўнікам будзе вельмі прыемна, калі мы свае мілыя адносіны да іх будзем захоўваць увесь год, а наша старанне ў вучобе дакажа гэта на справе.**

„Зорка" жадае ўсім настаўнікам усяго найлепшага — здароўя, шчасця, поспехаў у працы і вельмі добрых, ахвотных вучыцца вучняў.

Думаю, што ўсе „Зорчыны" чытачы пастараюцца, каб гэтае апошняе пажаданне не засталося толькі на паперы.

На здымках прадстаўляем сёння дзвюх настаўніц са сваімі выхаванкамі. На верхнім — настаўніца матэматыкі Ніна Ваўрэнюк, а на ніжнім — настаўніца музыкі Валя Дуда. Абедзве настаўніцы, хоць па адукацыі нічога супольнага з беларускай мовай не маюць, унеслі вялікі ўклад у развіццё ў сваіх выхаванкаў пачуцця роднай мовы, культуры. Навучылі іх разумець і любіць народныя беларускія песні, пазнаваць гісторыю і культуру беларусаў.

Настаўніца Ніна Ваўрэнюк шэраг гадоў прапрацавала ў школе ў Ласінцы. Сама спявае ў беларускім хоры ў Гайнаўцы, а сваіх выхаванкаў навучыла так спяваць, што яны некалькі гадоў запар займалі першыя месцы ў конкурсах беларускай песні. Цяпер Ніна Ваўрэнюк пераехала жыць у Чыжы, і там ужо ўзяла выхаваўства ў чацвертым класе. На здымку бачым яе разам з вучнямі.

**Настаўніца Валя Дуда працуе ў Дашах. Дзеці з гэтай школы ў мінулагоднім конкурсе беларускай песні таксама занялі першыя месцы. На здымку мы бачым настаўніцу разам з дзявочым квінтэтам. Нядаўна „Ніва" пісала аб цудоўным беларускім вечары, які арганізавалі Валя Дуда разам з настаўніцай беларускай мовы Валяй Андрасюк. Аб беларускім канцэрце, які вяла Валя Дуда, у захапленні былі не толькі прыехаўшыя госці, але ўсе жыхары вёскі.**

**Прыемна пісаць пра настаўнікаў, якія ўсім сэрцам стараюцца дапамагчы дзецям і асяроддзю дапаніць роднае слова, папулярызуюць родную песню, нашу культуру.**

**Сардэчна дзякуем ім за гэта. Дзякуем усім настаўнікам за сардэчнасць да дзяцей, за матчыныя клопаты, за дабрату і за тое, што вядуць нас безупынна ў вялікі свет, у такое складанае, але і цікавае жыццё.**

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Настаўніца Валянціна Дуда з дзявочым квінтэтам, лаўрэатам конкурсу беларускай песні для школьнікаў.*

## Я БУДУ САЛДАТАМ

Ведаеце, колькі нас? Цэлы тузін, шэсць братоў, чатыры сястры ды тата з мамай — усяго дванаццаць.

— Як вас многа! — смяецца наш паштальён дзядзька Кастусь.

Ён спыняецца каля нашай хаты, надзявае на нос акуляры і грабецца ў тоўстай сумцы, біткам набітай featureрознай карэспандэнцыяй. І пакуль дзядзька Кастусь перабірае пісьмы, у нас сэрца гатова выскачыць ад нецярплівасці: знойдзе ён у сваёй паштальёнскай сумцы пісьмо ад нашага брата, які служыць у войску?

А самы малодшы, чатырохгадовы Борка, узлазіць мне на плечы, каб сваімі вачыма заглянуць у сумку. Борку ў нашай сям'і называюць Яздок, таму што вельмі любіць сядзець верхам на старэйшых братах. „Змітрок, — просіць ён мяне. — Павазі мяне трошкі". І я, пасадзіўшы яго на плечы, быццам конь, пачынаю скакаць па двары...

— Шмат дзяцей, кажаце? — адказвае дзядзьку Кастусю мама. — Што вы? Вось прыдзе Міхась з войска, тады паглядзіце, колькі нас будзе!

— Чым больш, тым лепш! Што можа быць лепшага ад вялікай сям'і! — дзядзька Кастусь высока ўзнімае канверт над галавой. — Ану, хто дастане?

Браты стараюцца даскочыць да пісьма, сёстры голасна пішчаць. Борка, седзячы ў мяне на шыі, з усяе сілы стараецца схапіць канверт.

— Давай, Борка, пакажы, які ты ў нас спрытны, — падахвочваю я брата.

Нарэшце дзядзька Кастусь уручае яму пісьмо, быццам Борка перамог усіх.

— Дастаў, дастаў! — крычыць шчасліва Яздок і разглядвае канверт: ці сапраўды ён з войска ад Міхася? Ён ужо ведае, якая пячатка бывае з войска.

— Ад Міхася! — І ён падае пісьмо маме.

Мама сядае проста на ганку, вымае з канверта складзены ў чатыры столкі лісток паперы і чытае ўголас.

Мы ўсе слухаем, затаіўшы дыханне. Дзядзька Кастусь не спяшаецца адыходзіць і, калі мама канчае чытаць, кажа:

— Так... Някепска ў войску. Вось пабачыце, якім падараслеўшым вернецца ваш Міхась. А ты, Борка, калі пойдзеш у войска?

— Яго не возьмуць, — кажу я.

— Не возьмуць? Чаму?

— Бо ён супу не есць.

— Не можа быць. Няўжо гэта праўда?

— А яшчэ ён кашы не любіць! — дадае адна з сясцёр.

— Што я чую? — здзіўляецца дзядзька Кастусь. — Як гэта не любіць? Значыць, ён не вырасце і яго не возьмуць у войска.

Спалохаўшыся, што застанецца недаросткам і не зможа служыць у войску, наш Борка пачаў есці супы і кашы.


**(Працяг на стар. 10)**

Сцяпан Зар'ян

## СКАЗ ПРА СВАБОДУ

Кажуць — пра гэта я чуў яшчэ даўно. — што некалі Свабода была прыгожай птушкай. Жыла яна воддаль ад людзей. у зялёных лугах. у пышных лясах ці высока-высока на скалах. Лунала вольна і спявала вольна..

І вось аднойчы людзі, якіх прыгнятаў князь, даведаліся ад старога мудраца, што калі прывядуць гэтую птушку Свабоду ў сваю краіну. не будзе больш прыгнёту, зікнуць турмы і кайданы.

— Дзе ж гэта птушка па імені Свабода? — спыталі людзі ў мудраца.

— Жыве яна далёка, вельмі далёка, у зялёных лугах, у пышных лясах ці высока-высока на скалах... Каб знайсці яе, патрэбны вялікае цярпенне і чыстае сумленне...

Паслухаліся людзі старога мудраца, сабралі атрад і выправіліся шукаць Свабоду.

Ішлі яны доўга-доўга, ішлі месяцы і гады, цярпелі нягоды, гублялі многіх... Ды, нарэшце, — і чаго толькі не зробіць чалавек! — знайшлі яны птушку Свабоду і з песнямі, з музыкай разам вярнуліся ў сваю краіну.

— Радуйцеся, людзі!... Вось яна. Свабода!... Гэтая птушка Свабода нясе нам шчасце!...

І сабраліся ўсе: і тыя, хто заставаўся ў краіне, і тыя, хто прывёў птушку.

Аб'ядналіся яны і заспявалі так весела і пераможна, што злосны ўладар са сваімі слугамі знік бясследна.

І залатапёрая Свабода, шырока раскінуўшы вогненныя крылы, успыхнула над краінай, паляцела над сёламі і гарадамі, над вёсачкамі і хутарамі, несучы з сабою весялосць і песні.

Ды вось, калі прайшла першая радасць, людзі, — і зноў жа чаго не зробіць чалавек! — падумаўшы, што птушка Свабода можа вярнуцца ў свае зялёныя лугі і высокія горы, узялі і пасадзілі яе ў клетку.

— Не рабіце гэтага! — закрычала птушка. — Пакіньце мяне вольнай, і будзеце вольныя вы...

Не паслухаліся людзі.

Тады выйшла наперад некалькі чалавек, каб перашкодзіць астатнім зняволіць птушку.

— Пакіньце вы гэта, — сказалі яны. — Няхай птушка будзе вольнай, няхай лунае і лятае сабе вольна.

Ды першыя, іх было намнога больш, пасадзілі і заступнікаў разам з птушкай.

Убачыўшы гэта, Свабода закрычала яшчэ гучней:

— Не рабіце гэтага, адпусціце мяне!...

І людзі зноў не паслухаліся.

— Не, — сказалі яны, — ты пакінеш нас, паляціш, і нам зноў стане горш.

— Нельга мяне трымаць у клетцы, — сказала Свабода. — Калі вы не адпусціце мяне, вам будзе горш...

Як ні прасіла, як ні маліла Свабода, — не паслухаліся яе людзі і пасадзілі ў клетку.

Але для Свабоды няма перашкод. Вольная птушка ноччу разбіла, разламала клетку вострай сваёй дзюбай і кіпцюрамі і паляцела да сябе ў зялёныя лугі, у густыя лясы, у далёкія-далёкія горы...

І збыліся словы вольнай птушкі. Зноў да людзей прыйшла бяда, вярнуўся жорсткі ўладар, і ўсё стала па-ранейшаму: непасільныя падаткі, перапоўненыя турмы...

Тады ўспомнілі людзі пра птушку Свабоду, успомнілі і зноў пусціліся ў дарогу, каб знайсці і вярнуць яе назад.

І зноў ішлі яны доўга-доўга, ішлі месяцы і гады, цярпелі нягоды, гублялі многіх... І нарэшце знайшлі яе, пачалі прасіць, каб яна зноў вярнулася ў іхнюю краіну.

І вольная птушка адказала:

— Я вярнуся да вас, але абяцайце ніколі не садзіць мяне ў клетку. А ў турмы і клеткі пасадзіце зло і насілле.

**Сцяпан Зар'ян**

(Працяг са стар. 9)

## Я БУДУ САЛДАТАМ

Аднойчы Борка знік з дому, а разам з ім і наш сабака Урка. Мы, вядома, спалохаліся, кінуліся яго шукаць — усё сяло аббегалі. Але ніхто нічога не мог сказаць. Выйшаў я на дарогу за вёску, стаю і не ведаю, куды ісці.

І раптам каля мяне прытармазіла „Волга". За рулём сядзеў незнаёмы мне чалавек.

— Ці вы не бачылі маленькага хлопчыка? — спытаў я.

— Бачыў! Гэты хлопчык ішоў да станцыі. У сіняй куртцы, а на плячы дзіцячы аўтамат. І сабака побач бяжыць, такі белы, велізарны, як цяля.

— Тэта ён! — уцешыўся я.

Я падзякаваў незнаёмаму і пабег да станцыі.

... Я ўжо выйшаў на простую дарогу, калі ўбачыў здалёк свайго брацікa і побач з ім сабаку Урку. Я дадаў кроку і, нарэшце, дагнаў яго.

— Борка, куды ты бяжыш?

— У войска, — адказаў ён, не затрымоўваючыся, і прыціскаючы да сябе аўтамат-цацку.

— Чаму ж ты пайшоў паціху, нікому нічога не сказаў? Ці ж ты не памятаеш, як мы Міхася праводзілі ўсім сялом?

— І мяне так праводзілі б? — уцешыўся Борка.

— Вядома. Калі табе будзе столькі год, як Міхасю.

— А калі мне будзе столькі год?

— Ведаеш, давай вернемся дадому, там я табе адкрыю гэтую таямніцу...

Борка перакінуў аўтамат на плячо і працягнуў да мяне рукі.

— Вазьмі мяне на рукі, я вельмі змучыўся.

У той дзень я раскрыў яму „таямніцу": з-пад тапчана, што стаіць на верандзе, я выцягнуў чаравік нашага Міхася і ўрачыста сказаў:

— Бачыш гэты чаравік, Борка? Калі ён будзе якраз на цябе, тады і прыдзе твой час служыць у войску.

Борка згодна кіўнуў галавою — зразумеў.

Больш ён ужо не ўцякаў. Затое цяпер ён часта выцягвае з-пад тапчана чаравік Міхася, каб праверыць, ці не вырасла ў яго нага...

**Паводле У. Асламазішвілі**



Хлопцы з Відава. Фота А. Гаўрылюка.

## ЗАГАДКІ

### ПРА ВАДУ І ЗЯМЛЮ

1. Што нас корміць, а есці не просіць?
2. Матчыну скрыню не паднімеш, даччыну стужку не скатаеш, братнінага коніка не спаймаеш.
3. Дзяжа чорная, а века белае.
4. Па мне паўгода ходзяць, паўгода ездзяць.
5. Без ног бяжыць, без вачэй глядзіць.
6. Вясной конік іграе, а летам адпачывае.
7. Карова бяжыць, скура ляжыць.
8. — Куды ідзеш, крывая вуліца? А чаго стаіш, стрыжана патыліца?
9. Два браты ў ваду глядзяць, а разам не сыходзяцца.
10. Кабыла бяжыць, аглоблі ляжаць.
11. Адно бяжыць, другое ляжыць, а каб усталі, то да неба б дасталі.
12. Кругом вада, а з піццём бяда. Хто адгадае, дзе гэта бывае.

### АДГАДКІ

*1. Зямля. 2. Зямля, дарога, вецер. 3. Снег на зямлі. 4. Балота. Камяні. 5. Вада. 6. Вада ў рацэ. 7. Вада і лёд. 8. Рэчка і сенажаць. 9. Берагі ракі. 10. Рака і берагі. 11. Рака і дарога. 12. На моры.*

## Вясёлы куточак

* * *

— Чаго ты, дзяўчынка, так моцна пішчыш? Сціхні! — гаворыць незнаёмая бабуля.

— Але мне Ганка сказала, што, калі я буду так доўга пішчаць, дык прыдзе чорны чалавечак з зялёнымі вачыма і чырвонымі валасамі. Я так доўга ўжо крычу, а ён усё не прыходзіць! — адказвае дзяўчынка.

* * *

— Таня, колькі будзе 5+5?

— Дзве рукі, — адказвае Таня.

## АДГАДАНКА



Навучыся маляваць коніка.



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

# Бяда з жытам

Вазіў гной,
Трос, араў,
Потым поле прыбіраў,
Жытка сеў поўнай жменяй,
Баранаваў цэлы дзень.
Усё з сялянскай надзеяй,
Няхай на карысць расце!

Што стаміўся,
Пот праліў,
Гэта ёсць нармальнай з'явай.
Стаіць жытка, як сцяна,
І не горша ярына.
Будзе сабе і дзяржаве,
Абы ў пору змалаціць,
Ды насталі судны дні.

Пачалася валакіта
У пагоні за „Бізонам".
Цэлы тыдзень дзень у дзень
Той наведваў „эскаэр",
А народу — як на фэсце,
Ані сесці, ані ўлезці.

Кожнаму паабяцалі
І тэрміны вызначалі,
Потым нанава мянялі.
А камбайны, як гаргары,
Гэтары паапускалі,
Як штось лопне, дык бяда —
Запасной часткі няма.
Падкручвалі іх ключамі,
Білі ў гайкі малаткамі.
А народ халера брала!

Шмат чаго пачуць прышлося:
Сварак, розных анекдотаў.
Як на ліха кіраўнік
Не ўзяў мяне на ўлік.
Ён тут важная персона,
А я што ж, асоба скромна.

Было многа балагану,
Пакручастага бясплану,
Як гавораць хітразнаўцы:
— Папабегаеш ты зайцам,
Бо хто добранька „прымочыць",
Ад рукі яму ўсё скосяць.

Не час скончыць непарадкі?
Хапуноў гнаць без аглядкі,
Ад народнага дабра?
Ці ўжо права ў нас няма?

**Уладзімір Гайдук**

# НІЎКА

**Вялікія за партамі.**




**— Колькі можна, Дэмасфен? Ты што, вады ў рот набраў?**
**— Не, каменняў.**

### УСПАМІН

Жонка глядзіць у акно і кажа мужу:

— Якая агідная пагода сёння. Таксама было ў той вечар, калі ты прасіў маёй рукі.

— Так, так, — падхапіў муж. — Гэта быў жахлівы вечар!

### ДАБРАДЗЕЙ

Жонка да мужа, што ледзь трымаецца на нагах:

— Дзе цябе насіла?
— Дыы-ы-ыы... Рыбу лавіў.
— А дзе ж рыба?
— Дыы-ы-ыы...
— Што „дыы-ы-ыы"?!
— Я яе адпусціў. Ёй таксама піць хочацца.



**Зорак з неба не хапай — не было ўказанняў.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Містэр Сміт прыйшоў у рэдакцыю адной з лонданскіх газет:

— Я б хацеў змясціць у вашай газеце наступную аб'яву: „Хто знойдзе любімую кошку маёй жонкі, атрымае ўзнагароду мільён фунтаў..."

— А ці не здаецца вам гэта сума залішне вялікай нават для любімай кошкі? — пытае яго супрацоўніца аддзялення аб'яў.

— Не хвалюйцеся, учора я гэту поскудзь утапіў!

*

— Бедны Іёзэф. Як жа яму не шанцуе! Аграбілі дачу, ў доме быў пажар, у аварыі пацярпела яго новая машына, і ў дадатак да ўсяго гэтага ад яго ўцякла жонка. Ці можа быць што-небудзь горшае?

— Можа. Калі жонка перадумае і вернецца да яго.

*

У цырку хлопчык пытае маці:

— Мама, чаму тыграў запіраюць у клеткі?

Кіндзюліс ціхутка шапнуў:

— Каб людзі не напалі. Бачыш, якое на тыграх футра!...

### У АЎТОБУСЕ

Два студэнты з розных курсаў едуць аўтобусам. Сядзяць... Побач „падвесіўся" старэнькі прафесар.

— Ты чаму яму месца не ўступаеш? — кажа малодшы.

— Навошта?... Ён у нас ужо не чытае. А ты чаму?

— Дык ён у нас яшчэ не чытае.

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### СУДДЗЮ НА МЫЛА!

Улічваючы прафесіянальныя якасці футбольнага суддзі Шылахоўскага, вышэйстаячыя інстанцыі прынялі рашэнне аб назначэнні яго дырэктарам мылаварнага завода.

### ПЕРАДАВІКІ

Дэвіз працаўнікоў прылаўка: месячнік культурнага абслугоўвання закончым датэрмінова!



**З ваеннага гумару**

### ПАВАГА

— I ўсё ж я не разумею, чаму цябе гэтыя бандыты адпусцілі? — дапытваў фашысцкі оберст радавога Штрыпке, калі той вярнуўся з партызанскага палону.

— У іх асаблівая павага да вас, гер палкоўнік.

— Растлумач больш канкрэтна.

— Яны вельмі шкадавалі, што вы не папалі ў іх рукі замест мяне і адпусцілі мяне, каб я перадаў вам запрашэнне да іх у госці.



**— Як стаіш перад фюрэрам!**
**— О, даруй, шаноўны фюрэр, не вытрымаў нагрузкі рускага фронту.**

Малюнак Г. Валька. (З газеты-плаката „Раздавім фашысцкую гадзіну").

# Курёзы

### ПРЫНЦЫП ПЕРАД УСІМ!

Хоць у Сеймура Ерні з амерыканскага штата Нью-Джэрсі на банкаўскім рахунку была, вобразна кажучы, толькі дуля з макам, ён доўга не адчуваў ніякіх фінансавых цяжкасцей — спакойна разлічваўся за ўсё чэкамі, якія, вядома, былі бязвартаснымі. Урэшце здрадлівая доля прывяла яго на лаву падсудных. Вынаходлівага ўласніка нічога не вартай чэкавай кніжкі засудзілі да зняволення ўмоўна і да 2000 долараў штрафу. Пачуўшы пра штраф, ён, будучы верны свайму прынцыпу, тут жа выпісаў чэк на ўказаную суму.

### НОВАЕ

На прэс-канферэнцыі ў г. Дэнверы, адміністратыўным цэнтры штата Каларада, выступіў урадавы кіраўнік сацыяльнага забеспячэння — Арманда Атэнсія. „У нас, — сказаў ён, — з'явіўся новы тып беспрытульных грамадзян. Такіх грамадзян, якія маюць не толькі вышэйшую адукацыю, а і званні дактароў навук і прафесараў. Тэма беспрацоўных навукоўцаў старая, новаю стала тэма беспрытульных навукоўцаў, якія не маюць ані працы, ані жытла! Я лічу гэта духоўным разбурэннем нашай краіны..."




**І сярод выхаваных трапляюцца культурныя.**